ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● **Заснавана ў 1991 годзе ● № 15 (71) ● Пятніца, 22 кастрычніка 1999 г. ● У розніцу кошт 15000 руб.**

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### У Беларусі і Калінінградскай вобласці ёсць агульныя інтарэсы

На высокім узроўні прайшоў візіт афіцыйнай дэлегацыі нашай краіны на чале з прэзідэнтам А.Лукашэнкам у Калінінградскую вобласць. Адбыліся перагаворы паміж Аляксандрам Лукашэнкам і губернатарам Калінінградскай вобласці Леанідам Гарбенкам.

У ходзе перагавораў былі абмеркаваны магчымасці выкарыстання калінінградскіх портаў як перавалачных пунктаў для беларускіх грузаў, пытанні, якія датычаць стварэння сумеснага прадпрыемства па здабычы і перапрацоўцы морапрадуктаў, іншыя праблемы.

Затым адбылася цырымонія падпісання міжурадавага пагаднення аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве Калінінградскай вобласці з рэгіёнамі і органамі дзяржаўнага кіравання Беларусі.

У дакуменце асаблівая ўвага ўдзяляецца пытанням выкарыстання калінінградскага порта, рыбалоўства і перапрацоўкі рыбы.

Прадугледжваецца таксама развіццё гандлёва-эканамічных адносінаў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, транспарце і іншых сферах.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### Абдзіралаўка па-буйному

Новым Указам Аляксандр Лукашэнка павялічыў на 10% аб'ёмы валютнай выручкі, якую суб'екты гаспадарання мусяць у абавязковым парадку прадаваць на беларускай валютна-фондавай біржы. Нагадаю, дагэтуль прадпрыемствы краіны паводле Ўказа двухгадовай даўнасці рэалізоўвалі 30% валюты. Абавязковы продаж валюты ажыццяўляецца тут паводле правілаў, якія не маюць нічога агульнага са свабодным грашовым рынкам. Сёння, напрыклад, на валютна-фондавай біржы прадпрыемствы мусілі прадаваць дзяржаве валюту па курсе 296000, у той час як на чорным рынку даляр ужо прадаюць па 575000 беларускіх рублёў.

### Бастуюць і патрабуюць ад улад

Прадпрымальнікі г. Гродна правялі папярэджальную акцыю. Большасць тых, хто гандлюе на рэчавым рынку "Паўднёвы" і Цэнтральным рынку, на адзін дзень спынілі гандаль. Яны запатрабавалі ад Уладаў пачаць рэальныя перамовы з прадстаўнікамі свабодных прафсаюзаў прадпрымальнікаў, адмены некаторых пунктаў прэзідэнцкага дэкрэту N14, прыняцця ў поўным аб'ёме праекту, прапанаванага прадстаўнікамі свабодных прафсаюзаў прадпрымальнікаў, а таксама спынення крымінальнага пераследу прадпрымальнікаў за паўторныя дробныя правапарушэнні, адмены абавязковай сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі дробных партый асобных тавараў.

Выказваліся і іншыя патрабаванні.

**Алесь ЛАЗОЎСКІ.**

### Новае змяншэнне беларускамоўных першакласнікаў

Замест абяцанага павелічэння на 9 беларускамоўных першых класаў сёлета ў Менску стала іх яшчэ на 1 меней, чым летась. Усяго 689 хлопчыкаў ды дзяўчынак пачалі спасцігаць азы навукі на роднай мове. Лідзіруе тут, як і ў папярэднія гады, Савецкі раён сталіцы, у якім па-беларуску ня вучыцца ніводзін першакласнік, ніводзін другакласнік, ніводзін дзевяцікласнік. Ніводнага беларускамоўнага старшакласніка няма ў Цэнтральным раёне сталіцы, які займае другі радок у гэтым сумнеўным лідзерстве. Гэткім чынам сёлета ў сталіцы краіны па-беларуску вучыцца 23797 хлопчыкаў ды дзяўчынак, што складае ўсяго 10,5% ад усіх мінскіх школьнікаў. Летась іх было 11%, пазалетась — 13,9%.

Як бачым, сітуацыя, якая ўзнікла ў сістэме нацыянальнай асветы пасля рэферэндуму 1995 г., мае тэндэнцыю на выцясненне роднай мовы са школ сталіцы. Не цяжка падлічыць, што пры такіх тэмпах праз некалькі гадоў у Мінску не застанецца ніводнага дзіцяці, якое будзе вучыцца на мове тытульнай нацыі. На сталіцу, як вядома, раўняюцца астатнія рэгіёны краіны.

**Валянціна АКСАК**

### Вёска губляе людзей?

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу з 1990 га і да пачатку 1999 года колькасць працуючых грамадзян у краіне скарацілася з 5 мільёнаў 150,8 тыс. да 4 мільёнаў 416,6 тыс. чалавек. Пры гэтым найбольш адчувальныя страты панесла за гэты час сельская гаспадарка: тут колькасць занятых зменшылася амаль на 290 тыся чалавек.

Адным з фактараў скарачэння занятасці ў айчынным АПК, безумоўна, трэба лічыць змяншэнне агульнай колькасці сельскіх жыхароў з 3 мільёнаў 368,7 тыс. да 3 млн. 19,8 тыс. чалавек. Разам з тым кідаецца ў вочы, што ў перыяд з 1990 па 1999 год на вёсцы стала менш асоб, якія не дасягнулі працаздольнага ўзросту (з 21,4 да 20,6 працэнта ад агульнай колькасці), а таксама асоб працаздольнага ўзросту (346,3 да 46%). У той жа час з 32,3 да 33,4% павялічылася колькасць пенсіянераў.

**Сяргей ГРЫБ.**

### Мільён тон за гады

Беларускі цэментны завод, што запушчаны ў г. Касцюковічы 11 верасня 1996 года, днямі выдаў мільённую тону высокаякаснага цэменту, які карыстаецца вялікім попытам у будаўнікоў.

За тры гады дзейнасці Беларускі Цэментны стаў шырокавядомым ва ўсёй краіне і далёка за яе межамі.

Касцюковіцкі цэмент славіцца сваёй якасцю і карыстаецца ў рэспубліцы і за яе межамі вялікай папулярнасцю.

Спажыўцом мільённай тоны прадукцыі Беларускага цэментнага завода стаў завод жалеза-бетонных вырабаў Гомельскай філіі N 4 ў г. Мазыры.

**Віктар БОНДАРАЎ**

### Дзе будучыня беларускай нацыі?

На сённяшні дзень колькасць памёршых перавышае колькасць нованароджаных па рэспубліцы ў паўтара раза, прычым у сельскай мясцовасці гэты паказчык яшчэ вышэйшы: там паміpae людзей у 2-2,5 раза больш, чым нараджаецца.

Трывожыць здароўе дзяцей. Ужо ў падлеткавым узросце колькасць хранічных захворванняў павялічваецца ў 2 разы. Дзяўчынкі хвараюць часцей хлапчукоў. І гэта пры тым, што менавіта на дзяўчынак праз некалькі гадоў ляжа галоўны груз па выношванню дзіцяці.

На ўзроставую групу ад 10 да 14 гадоў прыпадае і найбольшая колькасць дзяцей-інвалідаў. На першым месцы ў структуры дзіцячай інваліднасці стаяць хваробы нервовай сістэмы і органаў пачуцця, на другім — анамаліі развіцця, на трэцім — псіхічныя расстройствы.

Колькасць жа дзяцей з пагранічнымі расстройствамі, якія з'яўляюцца "стартавай пляцоўкай" для развіцця самых розных паталогій, павялічылася за апошнія 5 гадоў на 19%.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



*Вось які у нас ураджай.*

**Фота В.Бысава**

### Партый і сект паменшала

Закончана перарэгістрацыя палітычных партый, прафсаюзаў і іншых грамадскіх аб'яднанняў. Адказ у перарэгістрацыі атрымалі 211 арганізацый (13% ад тых, што падалі заявы на перарэгістрацыю). З 27 палітычных партый падалі дакументы на перарэгістрацыю ў Мін'юст толькі 19. Двум з іх — Партыі здаровага сэнсу і Хрысціянска-дэмакратычнаму саюзу было адказана ў перарэгістрацыі.

Не зарэгістраваны некаторыя дэструктыўныя секты, як, напрыклад, належачая Царкве Муна студэнцкая асацыяцыя К.А.Р.П. і таварыства "Дыянетыка".

**(АіФ).**

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Мы працягваем конкурс прыгажунь на прыз газеты "Беларускі Усход". На конкурс можна дасылаць здымкі жанчын любога ўзросту, жыхарак Магілёўскай, Гомельскай і Віцебскай абласцей.

Прадугледжаны чатыры прызы па ўзроставых групах:

1. Ад 12 да 16 гадоў.
2. Ад 17 да 35 гадоў.
3. Ад 35 да 50 гадоў.
4. Ад 51 года і старэй — без абмежавання.

Здымкі можна суправаджаць прыкладна такім зместам: Каця Барысенка, узрост 20 гадоў, па гараскопу Цялец. Любімы занятак — гатаваць і вязаць.

Можна прозвішча і не называць —толькі імя. Але для газеты асобна (не для друку) павінен быць указаны падрабязны адрас удзельніцы конкурсу.

Прызы будуць уручаны тым жанчынам, па кожнай узроставай групе, здымкаў якіх больш за ўсіх дашлюць чытачы ў рэдакцыю газеты. А рабіць гэта трэба так: калі чытач лічыць, што яму спадабаецца тая ці іншая дзяўчына, жанчына, ён выразае з газеты здымак і ў канверце высылае яго ў рэдакцыю.

